# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

№ 10

Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932 ГОД ВЫДАНЬНЯ 4


## НАША СЯЎБА

Музыка ЯФІМАВА










Разрыхляем, сеем, садзім, возім і капаем.
Праца корміць чалавека, ўсе мы гэта знаем.
Лейся, лейся, наша песьня маладая!
Дружна мы ўсе працуем, весела гуляем.


Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.






# Гадуйце трусоў!

Трус—самая пладавітая і карысная жывёла. Ад 2—3 самак за год можна мець ня меней 150 клгр. добрага мяса.

Разьвіцьцё трусоў на многа адразу-ж у найкарацейшы час павялічыць нашы мясныя запасы. Разводзіць і гадаваць трусоў можна ня толькі ў вялікіх гаспадарках Кожная сталоўка, кожная школа, атрад, лагер могуць гадаваць трусоў.

За 1932—33 гг. Савецкая Беларусь павінна даць 2000 тон трусінага мяса для рабочага забесьпячэньня і паўтара мільёна скурак для нашай прамысловасьці.

Гэтае заданьне мы павінны выканаць.

## Што дае кожны трус?

Выгадаваны трус дае каля 8 фунтаў добрага мяса, Трусінае мяса вельмі карыснае: яно спажыўнейшае за мяса іншых жывёл.

З выробленых трусіных скурак шыюць прыгожыя футры. Трусіны пух ідзе на выраб вязаных рэчаў, а з шэрсьці робяць добрае дарагое сукно.

Трусы вельмі пладавітыя. Самка можа даць 3, а то і 4 прыплоды за год, ад 5 да 10 штук кожны.



**БЭЛЬГІЙСКІ ЗАЯЦ.** — Важыць гэты трус да $3\frac{1}{2}$ клгр. Жывот і ніжняя частка хваста белыя, а сам трус увесь ярка-рыжы. Радзіма труса—Бэльгія.



**ГАВАННА.** — Гэты трусік важыць да 3 клгр. Афарбоўка шэрсьці цёмна-рудога колеру. Радзіма труса—Галяндыя.



**АНГЛІЙСКІ БАРАН.**—Самы цікавы па выгляду трус. Важыць ад 4 да 10 клгр. Вушы дасягаюць 66-ці сантымэтраў даўжыні і да 20 сантымэтраў шырыні.

## Як карміць трусоў?

Трус—жывёла ня вельмі пераборлівая. Ён добра есьць усё тое, чым кормяць і іншых хатніх жывёл.

Карміць трусоў трэба ў вызначаны час, тры разы на дзень летам і два—зімою. Кармы трэба даваць розныя, упярэмешку—адзін, потым другі і г. д.

У клетках і кармушках павінна быць чыста, бо трусы могуць захварэць. Корму з аднае кармушкі ў другую перакідаць няможна.

## Што ядуць трусы?

Сена. Перад дачай, трэбаператрэсьці, каб ня было пылу.

Сэрадэлю, адуванчыкі, канюшыну (белую і чырвоную). Гэтыя расьліны вельмі карысныя для трусіц.

Бульбу і бульбяныя лупіны. Даецца гэта ў гатаваным выглядзе.

Моркву. Даваць трэба толькі сырую.

**Капусту, авёс, гарох, проса, боб і кукурузу.** Капуста даецца ў пакрышаным выглядзе, а боб, гарох, кукуруза ў размочаным (мачыць трэба 1 суткі).

**Жмыхі і вотрубі.** Трэба даваць у запараным выглядзе.

Карміць трусоў дзікаю травою з садоў, лясоў, лугоў, палёў трэба з асьцярогаю, бо ад такой травы трусы могуць захварэць. Усякі корм трэба добра ачысьціць ад пяску.

## Усе павінны гадаваць трусоў

Школам, у першую чаргу, трэба па-сур'ёзнаму ўзяцца за гэту справу. Пры кожнай школе павінен быць трусятнік, з якога дзеці і ўсе жадаючыя могуць браць трусоў для разьвядзеньня і гадоўлі.

Дзеці, настаўнікі, на вас ускладаецца вялікая задача—змагацца за разьвядзеньне трусоў, змагацца за тое, каб хутчэй выканаць пастановы партыі і Ўраду аб жывёлагадоўлі.



АНГЛІЙСКІ МАТЫЛЁК.—Адзін з прыгожых трусоў па сваёй афарбоўцы. Называецца „матыльком" таму, што мае прыгожую каляровую шэрсьць. Важыць ад 4 да 5 клгр.



НЯМЕЦКІ ВЯЛІКАН.—Колер труса белы, а на ім чорныя плямы. Тулава кароткае, ногі тонкія, вушы доўгія і шырокія. Важыць да 5 клгр.



ГАЛЯНДЗКІ.— Трусік невялікага разьмеру Важыць да $2^1/_2$ клгр. Шэрсьць чорнага колеру з белымі вялікімі плямамі.




**Мяса труса па спажыўнасьці лепшае за мяса курыцы і сьвіньні. Калі мяса курыцы мае 31 процант спажыўнасьці, а сьвіньні—25, дык трус дае 40 процантаў.**

## КОЛЬКІ ТРЭБА КОРМУ НА ДЗЕНЬ ДЛЯ ТРУСА СЯРЭДНЯЙ ПАРОДЫ

(*Вага вызначана ў грамах*).

| Узрост у месяцах | Сена | Бульба | Авёс | Ячменная мука | Усяго за дзень |
|---|---|---|---|---|---|
| Ад 1 да 1½ месяца | 10 | — | 8 | 10 | 28 |
| „ 1½ „ 2 „ | 35 | 40 | 20 | 10 | 105 |
| „ 2 „ 3 „ | 50 | 60 | 30 | 15 | 155 |
| „ 3 „ 4 „ | 60 | 70 | 25 | 15 | 170 |
| „ 4 „ 5 „ | 70 | 80 | 30 | 20 | 200 |
| „ 5 „ 6 „ | 100 | 100 | 50 | 20 | 270 |
| „ 6 „ 7 „ | 120 | 140 | 70 | 30 | 360 |
| Самкам, якія кормяць 5 шт. трусянят, трэба даваць | 170 | 140 | 110 | 80 | 500 |

Гэтыя кармы—галоўныя, іх можна замяняць і другімі.

Павялічваць корм для маладняка трэба паступова. Гэта значыць, кожны дзень па граму ці па два дадаваць да ўчарашняй порцыі.

Трусом буйнай пароды даецца на грамаў 5—10 больш, як трусом сярэдняй пароды.

**У наступным нумары мы раскажам аб тым, якія пароды трусоў лепш разводзіць і як зрабіць клетку для труса.**




Апавяданьне А. ДЫЛА

Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ

1.

— Чырык-чырык, чырык-чырык, — радасна чырыкаюць верабейчыкі, купаючыся ў сагрэтым сонечнымі праменьнямі пяску.

— Арр, арр,—шумна крычаць гракі. Адны папраўляюць свае старыя гнёзды, другія будуюць новыя.

Гудзіць паветра ад птушынага гоману.

А на дрэўцах ужо зьявіліся першыя зялёныя лісточкі.

Кіпіць работа і ў дзіцячым садзе.

Даўно, даўно, калі яшчэ сьнег пакрываў зямлю, дзеці ўжо рыхтаваліся да пасеўнай кампаніі. Зьбіралі попел для калгасу і для свайго гароду, чысьцілі насеньне, ладзілі рыдлёўкі інасілкі.

І вось сёньня першы дзень, калі дзеці вышлі на работу ў свой гарод.

Падзяліліся ўсе на брыгады. Адны капалі зямлю рыдлёўкамі, а другія разьбівалі яе грабелькамі, каб зямля была пухкая і мяккая і каб лёгка і добра ўзышло насеньне.

— Цёця Надзя,—пытаецца маленькі Лёдзік,—а калі-ж мы будзем садзіць?

— Ці бач, які спрытны, спачатку трэба градкі парабіць, а потым садзіць. Калі сёньня справімся, дык заўтра пачнем садзіць.

— Заўтра, заўтра,—радуецца Лёдзік,—я буду садзіць агуркі, а калі вырастуць, дык буду іх капаць.

— Капаць? агуркі?—засьмяялася Майя,—ха-ха-ха! Які ты сьмешны! Хіба-ж агуркі капаюць?

— А як-жа?—зьдзівіўся хлопчык.

— Агуркі растуць зьверху, капаць іх ня трэба.

Пачысьцілі дзеці насеньне і намачылі, каб лепш было садзіць і каб хутчэй парасткі пусьціла.

2.

А на другі дзень садзілі. Праткнуць пальцам ямачку ў зямлі, палажаць туды зярнятка і прысыплюць зямлёй.

І чаго толькі дзеці не пасадзілі, здаецца нічога не забылі. Перш за ўсё садзілі салату, цыбулю, потым рэпку, радзіску, моркву, бурачкі, бручку і гарбузы.

— Капусту забыліся пасеяць, капусту і бульбу!— непакоіцца Лёдзік.

А Майя гневаецца:

— Ды ня сеюць капусту, а расадаю саджаюць, а бульбу трэба цэлаю, альбо палавінкамі ў зямлю саджаць, абы толькі вочкі цэлыя былі.

На аднэйградцы дзеці пасадзілі толькі цыбулю. Усю градку цыбулькамі ўтыкалі. Вяршкі з доўгімі хвосьцікамі зразалі, а карэнчыкамі ў зямлю садзілі.

Агуркі і капусту садзілі, калі ўжо зусім цёпла стала.

Пасадзілі, дык палівать трэба, а леек у садзе толькі тры. Як быць? Палівалі па чарзе.

3.

Кожную раніцу бегалі дзеці на гарод паглядзець— можа што ўжо вырасла, але на градках было пуста.

— Цёця Надзя, цёця Надзя, не расьце нічога на нашых градках,—скардзіліся дзеці,—мабыць, нічога і ня вырасьце.

— Вырасьце, дзеткі, вырасьце, пачакайце!

Увечары пайшоў дожджык, цёпленькі, дробны—кап, кап, кап...

А раніцою на градках зьявілася першая зеляніна.

— Вырасла ўжо, вырасла!—радасна крычалі дзеці.

— Вось рэпка,—што я садзіў!

— Вось моркаўка!

— А гэта мой гарбузік!

— А салаты, салаты колькі!

— А гэта што такое?—запыталася цёця Надзя і пацягнула нешта за сухі хвосьцік.

— Нехта цыбулю пасадзіў дагары нагамі.

— Ні я, ні я!—адмаўляліся дзеці.

— Гэта Лёдзік!

— Гэта Зоя.

Так і не даведаліся, хто пасадзіў.

Расьце салата, расьце цыбулька, растуць агуркі, усё расьце, зелянее, а вакол пустазельле лезе ўсё вышэй і вышэй.



— Трэба папалоць нашы градкі, а то пустазельле ўсё паглушыць, яно закрывае гарод ад сонца ды і сок з зямлі высмоктвае.

Добра даглядалі дзеткі ўлетку свой гарод, палолі і палівалі.

Раней за ўсё вырасла салата, цыбуля і радыска. Зялёныя лісточкі салаты, доўгія пёркі цыбулі і чырвоная прыгожая кругленькая радыска.

— А які ў нас сёньня смачны абед у садзе быў,— хваліліся дзеці бацьком, — і салата, і цыбуля, і радыска і са сьмятанай. Вось мы наеліся. Мы гэта ўсё самі садзілі.

4.

Хутка праляцела лета, пачало халаднець, з крыкам лятали птушкі, зьбіраючыся ў цёплыя краі.

— Чырык, чырык,—чырыкаюць верабейчыкі, нібы гавораць: „а мы тут застанемся на зіму".

— Трэба ўжо нам выбіраць гародніну, — сказала аднойчы цёця Надзя.

— Выбіраць, выбіраць пойдзем! — радаваліся дзеці, рыхтуючы зноў насілкі, рыдлёўкі і скрынкі для гародніны.—На ўсю зімку нам хопіць гародніны.

Вырасла ўсё вялікае ды прыгожае: цёмна-чырвоныя буракі, кругленькая рэпка, жоўценькая бручка, смачная морква, а капуста-капуста—качаны такія вялікія, большыя аж за самы вялікі мячык у садзе.

— Пасолім на зімку, пасолім! — радаваўся Лёдзік, выбіраючы агуркі. Ён цяпер добра ведаў, як яны растуць. Сабралі дзеткі гародніну і паскладалі ў склеп на зіму, агуркі засалілі ў бочцы.

— На другі год пасадзім яшчэ болей, так як у сапраўдным калгасе, — казалі дзеткі і весела сьпявалі песенку:

**Восень залатая, ты нам прынясла**
**Поўныя гароды ўсякага дабра:**
**Моркаўкі, цыбулькі, бручкі, бурачкоў,**
**Бульбы і капусты, рэдзькі, гарбузоў.**

**Ўсё гэта мы зложым,—будзе на зіму.**
**Хто працуе—зімка ня страшна таму.**



# НАШ ГАРОД

ВЕРШ Т. КЛЯШТОРНАГА

Міргае далеч за вакном
Сваім блакітным небакраем.
Гарод узораны даўно,
Абсеманеньня ён чакае.

Учора лекцыі былі
І кожны слухаў з захапленьнем,
Якая трэба для зямлі
І апрацоўка і насеньне.

Зямля ня любіць, каб дарма
Сваім багацьцем ганарыцца;
Дагледзь зямлю, тады яна
На ураджай не паскупіцца.

Яшчэ настаўнік гаварыў,
Як можа вусень нам пашкодзіць...
А сёньня цэлы калектыў
Працуе дружна на гародзе.

Наш калектыў рабоце рад:
Няма прагульшчыкаў нізваньня.
Разьбіты ўсе на пяць брыгад
І кожнай дадзена заданьне.

Брыгада „тры“ пад буракі
Зямлю старэнна гноем дорыць,
„Пяцёрка“ садзіць агуркі,
А „двойка“ садзіць памідоры.

Крычым „пяцёрцы“:
— Больш вады!
Тут без паліўкі мала толку...
І на спаборніцтва тады
„Пяцёрка“ выклікала „двойку“.

Было прыемна для саміх,
Калі, хлапцам усім на дзіва,
„Пяцёрка“ з „двойкай“ лепш за ўсіх
І палілі і пасадзілі.

Багаты будзе ураджай,
Як прыдзе восень залатая...
Хай ня скупіцца толькі май,
Хай сонцам шчыра палівае.

А мы даглядзім свой гарод:
Ён будзе лепшы ўсіх гародаў...
І будзе нам на круглы год
У школе сьнеданьне заўсёды.



# БРЫГАДА ІГНАСЯ ТАНКОВІЧА

**АЛ. ПАЛЬЧЭЎСКІ**

**УРЫВАК З ТВОРУ „ЗЯМЛЯ ЧАКАЕ“**

Летась у калгасе „Колас“ Ігнася Танковіча вызначылі брыгадзірам. Вялікую адказнасьць усклалі на яго. Ігнась спакойна прыняў даручаную пасаду і шчыра ўзяўся за работу.

Другі год добрасумленна выконвае Ігнась свае абавязкі. Ён уважліва прыглядаецца да працы, з кожным днём стараецца палепшыць работу брыгады, пазбавіцца недахопаў. Зробяць Ігнасю заўвагу калгасьнікі—выслухае спакойна, абмяркуе, выправіць калі што нядобра.

Найбольш Ігнась вырашае справы ўсёй брыгадаю. Ён кажа, што тады лягчэй яны вырашаюцца і лягчэй выконваюцца, калі ўсе гуртам абмяркоўваюць.

Сёньня Ігнась склікаў вытворчую нараду свае брыгады. Ідзе вясна і Ігнась стараецца сустрэць яе як сьлед. На нарадзе Ігнась гаварыў аб пляне работы:

— Нам далі пэўны вучастак зямлі. Кожная гадзіна, кожны дзень нашага часу строга ўлічаны праўленьнем. Гэта летась брыгада ня ведала свае работы, а сёлета ўсё дакладна ўлічана для кожнае брыгады, для кожнага калгасьніка. Я думаю—не пазьней як праз тыдзень мы выйдзем на поле. Трэба ведаць адно: спозьнішся з сяўбою дзень, другі, а яна адплаціць за гэта пудамі недароду.

— Правільна!

— Верна!—пачуліся галасы.



— І сяголета давайце адразу ўмову на сацыялістычнае спаборніцтва заключым з брыгадаю Тодара Канонiка,—падаў думку Ціт Агейчык.

— Слушна гаворыш,—перапыніў Ціта Андрэй.

— А то летась аж у час уборкі заключаць умову ўзяліся,— працягваў Ціт.

— Дык што ты раўнуеш сяголетнія брыгады да леташніх. Гляджу я цяпер на ўсіх вас і сэрца радуецца. Кожны сам ахотна прышоў у маю брыгаду і я ўпэўнены,—ён заўтра і на работу пойдзе ахвотна.

Летась у калгасе „Колас" брыгады складаліся няправільна. Падзялілі ўвесь калгас на вучасткі: ад Піліпавых да Тодаравых, ад Тодаравых да Ігнатавых, а там—далей, і замацавалі па 10—12 двароў за брыгадаю.

Далося ў знакі леташняе брыгадзірства Ігнасю. Прыдзе гаварыць Цімоху на работу ісьці, а той падумае хвіліну ды кажа:



БРЫГАДА ВЫШЛА Ў ПОЛЕ. КЛАЛІСЯ ПЕРШЫЯ БАРОЗНЫ ВЕСНАВОГА ВОРЫВА.

— Не выпадае мне сёньня, ведаеш, плот гарадзіць думаю. Я хлопца вышлю на сваё месца.

— Што твой хлопец за дапамога? Ён з параю коняй ня справіцца. Сам едзь, у нас работа зрываецца,—просіць Ігнась.

Пачухае патыліцу Цімох, паглядзіць яшчэ раз у твар Ігнасю ды сваё цьвердзіць:

— Як хочаш, па-мойму, Пятрук справіцца з работай. Дармо гэта кажаш, што яму чатырнаццаты год. Сярод гурту не прападзе. А цяжка будзе, дык лягчэйшую работу дасі.

Ігнась ішоў ад Цімоха да другіх калгасьнікаў.

— Ну што гэта за работа!—абурана гаварылі тыя.—Адзін дае сталага работніка, а другі абы адчапіцца. А ўвосень будуць ураджай дзяліць пароўну на кожны двор.

*
* *

Сёлета пры складаньні брыгад Ігнась гаварыў:

— Гэта не бяда, калі калгасьнік з мае брыгады будзе

жыць трохі воддаль ад мяне. Мне мала калі прыдзецца хадзіць за ім, бо сваю работу ён наперад будзе ведаць. Мне дайце адно сталага работніка, каб можна было плуг, каня яму даверыць. Я хачу, каб брыгада моцнаю была, каб яна адказвала за сваю работу.

І зусім другое сёлета вышла ў „Коласе“ з рабочаю сілаю. Загадзя падлічылі, колькі трэба мужчын, жанчын, падлеткаў на кожны вучастак работы, разьмеркавалі іх па брыгадах, далі пэўнае заданьне кожнаму калгасьніку і, нарэшце, 11 чалавек знайшлося лішніх. Іх пастанавілі паслаць у адходнікі.

— От што значыць правільна рабочую сілу расставіць,—зазначае Ціт. Летась не хапала, а сёлета лішкі ёсьць. І зямлі больш засяём.

— І брыгады падабраны сталыя,—цешыцца Ігнась.

Ва ўсіх брыгадах ёсьць і пажылыя калгасьнікі, што добра ведаюць гаспадарку, і моладзь з імі прывучацца будзе да работы.

* * *

Першы дзень на шырокае поле прыехаў Ігнась Танковіч са сваёй брыгадай. Цяплынёю дыхае зямля ў твар аратых. Радасьцю вясны сьвецяцца іх вочы. Пойдуць аратыя зноў вярнуць шырокія скібы палеткаў, ступаць босымі нагамі па мягкай ральлі, слухаць пераліўныя песьні жаваранка. І лёгкаю будзе ў гурце работа, бо калектыў людзей стварае весялосьць, бадзёрасьць. Ніякія труднасьці ня страшны тым, хто працуе ў калектыве.

Ігнась расстаўляе ўсю брыгаду аратых і аглядае яшчэ раз спраўнасьць вупражы, плугоў. Ён правярае разам з калгасьнікамі кожную рэч. Глядзіць, ці ня муляе каню хамут, ці ня цесны падбрушнік і голасна зазначае: „каня трэба шанаваць. Конь любіць догляд“.

Кончыўшы правяраць, Ігнась яшчэ раз напамінае ўсім:

— Ведаеце, мужчыны, за маемасьць адказваеце вы.

— Гэта мы ведаем. Мы-ж расьпісаліся ў сьпісах.

Праз хвіліну рушылі, адна за другою, 12 пар коняй па калгасных загонах. Клаліся першыя барозны веснавога ворыва. А як адышліся на гоняй двое ад дарогі, спыніў Ігнась свайго каня, прайшоў уздоўж аратых да апошняга, паглядзеў, ці добра кладуцца барозны і заўважыў Мікалаю:

— У нашай умове з брыгадай Канохіка ёсьць пункт: араць бяз узрэхаў. А ты пакідаеш іх. Нядобра гэта—на ўсю брыгаду пляма.

— Калі ж коні памчаліся, а назад нельга было вярнуцца,—вінаватым голасам апраўдваецца Хлус.

— Трэба разьбіцца на меншыя групкі,—прапануе Андрэй,—лепей араць будзе.

— Мы гэта зробім, як вернемся назад к дарозе,—адказвае брыгадзір, ідучы да свайго каня.

Зноў крануліся коні, зноў скібы вільготнае зямлі кладуцца адна на другую роўнымі радамі. Глядзіць Антось, самы задні араты, на першыя барозны і думае: „Ог што значыць працаваць брыгадаю, калектывам. Першую баразну аром, а які шырокі загон выходзіць адразу“.

... Увечары Ігнась абмераў завораную зямлю, падзяліў яе на 12 частак і запісаў кожнаму ў кніжку па 1 працадні і 5 сотак.

— У мяне парадак будзе. Я буду кожны дзень запісваць выпрацаваную норму, тады ня будзе крыўды на запіс, як было летась у некаторых брыгадах.

— Сягоньня колькі выпрацавалі, што і позна прышлі, а заўтра больш выпрацуем, бо раней выйдзем на работу. Мы шмат патрацілі часу сёньня на збор,—гаворыць Піліп.

---

Назаўтра ледзь сонца вышла з-за лесу, Танковічава брыгада раней Канонікавай і Чыкуновай была ўжо на рабоце.

Па сьвежай ральлі Піліп з сявалкі сеяў ячмень. Роўнымі радкамі сыпаліся залацістыя зярняты на вільготную зямлю, а Міхаська баранаваў. Ен засыпаў зарняты зямлёю, засыпаў, каб яны добра ўзышлі, каб аплацілі работу.



ЯК АДПАЧЫВАЎ У. І. ЛЕНІН

# ГАРАДКІ

З УСПАМІНАУ

Ленін вельмі любіў дрэвы, птушак, любіў прыроду наогул. Захапляўся Ўладзімер Ільліч паляваньнем.

Часта, пры выпадку, любіў Ільліч гуляць, напрыклад, у гарадкі.

У нас у Горках былі ў модзе гарадкі. Уздоўж алейкі, каля дому адпачынку, мы наладзілі пляцоўку для гарадкоў.

Аднаго разу народу наехала больш, чым калі. Пачалася гульня ў гарадкі. Усе вельмі захапіліся гульнёй. Пыл стаяў слупам, крыкі, гам зьвінелі ў паветры.

Раптам адчыняюцца дзьверы ўваходу і зьяўляюцца Ўладзімер Ільліч, Надзея Канстантынаўна, Мар'я Ільлінічна.

Ленін адразу захапляецца агульным шумам і гамам, і тут-жа бярэцца за палку.

Як толькі Ільліч пачаў гуляць, крыкі троху сьцішыліся.

Але Ленін адразу так захапіўся ґульнёй і пачаў так біць, што ўсіх, як кажуць, заткнуў за пояс. І тут-жа, жартуючы, пачаў з усіх сьмяяцца:

— Як-жа вы гуляеце, я вось толькі што пачаў і ўсіх абгуляў.

Жарты і вясёлы сьмех Леніна так усіх захапілі, што неўзабаве пляцоўка зноў ажывілася, як і раней.

Мы ўсе былі з Леніным на „вы". Але ў час гульні, неўзаметку для сябе, перайшлі на „ты", пачалі і з яго жартаваць, сьмяяцца, крычалі, калі ён пачынаў біць, і перашкаджалі яму біць.

З таго часу тав. Ленін траха што заўсёды гуляў разам з намі.

**(„Пионерская Правда").**

# МЫ ПАВІННЫ ДОБРА ВУЧЫЦЦА

**Канчаецца навучальны год. Праз які час будуць падводзіцца вынікі нашай вучобы—як мы змагаліся за выкананьне пастановы ЦК партыі ў гэтым годзе.**

**Наша задача—усім з посьпехам скончыць навучальны год.**

## МЫ ДОБРА ВУЧЫМСЯ

Мы ведаем, што асноўная наша задача — добра вучыцца.

Як мы вучымся?

У нас было многа акцябрат, якія адставалі ў вучобе. Мы арганізавалі гурткі для адстаючых.

Апрача гэтага, слабейшых акцябрат прымацавалі да тых, хто лепш вучыцца.

На акцябрацкіх зборах нам расказвалі пра тое, як вучыўся тав. Ленін. Мы ўсе далі абяцаньне вучыцца так, як вучыўся Ленін, каб стаць сапраўднымі ленінцамі.

Былі ў нас і свавольнікі, якія перашкаджалі займацца другім. Настаўнікі і важатыя правялі гутаркі аб сьвядомай дысцыпліне. Пасьля гэтага ўсе групы заключылі між сабою сацыялістычны дагавор на лепшую дысцыпліну.

Так мы вучымся і змагаемся за выкананьне пастановы ЦК партыі аб школе.

**АКЦЯБРАТЫ БАЗЫ „ЧЫРВОНЫ ХАРЧАВІК“**

**г. Бабруйск**

# А ЯК ВУЧЫЦЕСЯ ВЫ?

У № 5 часопісі „Іскры Ільліча“ мы надрукавалі аб тым, як вучыцца СТАНІСЛАЎ БУРА-БУРЫМСКІ. Паказалі яго сшытак—як ён піша. У сшытку было многа памылак, плямаў.

Вучань той-жа групы ГЕНЯ ВАНЬКОВІЧ піша лепш за Станіслава. Ён узяўся дапамагаць свайму таварышу.

Зараз Станіслаў, як бачыце, піша ўжо куды чысьцей і лепш.

Станіслаў зараз стараецца добра вучыцца. Яму дапамагаюць у гэтым таварышы па групе.

А як вучыцеся вы?

Хто ў вашай школе кепска вучыцца?

Ці дапамагаеце вы вучыцца тым, хто адстае ад свае групы?

Птушкі—памочнікі чалавека.
Самы і дарагі і блізкі чала-
веку-памочнік—гэта шпак.
Куды-б не пашоў селянін
ўвесну на работу, усюды
за ім ляціць шпак.

*Гэтак піша зараз С. Бура-Бурымскі, вучань 2-й групы 25 менскай школы*

# Дзьве школы

ІНСЦЭНІРОЎКА Ў 2-х ДЗЕЯХ

## ДЗЕЯ 1-я

*Заслона закрыта. Адзін выходзіць і гаворыць да гледачоў*

Дзеці! На Захадзе крызіс і голад.
Бяз хлеба дні, без начлегу ночы.
А зараз мы ўбачым нямецкую школу,
Дзе вучацца дзеці рабочых.

*Заслона адкрываецца. На сцэне парты, каля іх і за партамі вучні. Заняткі яшчэ не пачаліся*

1-шы. Чаму няма Ганса ў школе?
2-гі. Чаму няма Карла ў школе?
3-ці. Чаму няма Фрыца ў школе?
4-ты. Аб гэтым даведацца трэба.
5-ты. А таму, што Ганс наш хворы.
6-ты. А таму, што Карл наш хворы.
7-ы. А многія ня маюць ні кавалачка хлеба.
3-ці. У мяне брат вось таксама хварэе.
На лекі грошай мы не дасталі.
4-ты. А ўчора мой бацька ня прышоў дахаты,
Яго паліцэйскія арыштавалі.
Ён далучыўся да забастоўкі,
І друкаваў да рабочых лістоўкі...

*Званок. Дзеці кідаюцца на свае месцы. Уваходзіць настаўнік.*

### Настаўнік

Што за шум і непарадкі?
Чулі вы званок?
Пачынаюцца заняткі!
Хто адкажа мне ўрок?

*Усе маўчаць, апусьціўшы галовы. Адзін, добра адзеты, устае, працягвае сшытак і кажа:*

Я адзін з усіх задачы рашыў,
Я для гэтай работы ўсе кніжкі купіў.
1-шы. Каб кніжкі купіць,
Трэба грошы здабыць.
7-мы. Буржуі раскошна жывуць у палацах,
5-ты. А нашы бацькі ня маюць ні хлеба, ні працы.

**Настаўнік**

Што? Вучыць мяне будзеце!
Вашы бацькі—гультаі, а ня людзі.
Біць іх і гэтага мала.

*Зьвяртаецца да дзяўчынкі, якая прыгнулася да парты.*

Эльза! Заснула?

**Эльза**

Я згаладала...
Чацьвёра дзяцей у мамы маёй.
Усе малыя яны.
І кожнаму праз чатыры дні
Даводзіцца есьці хлебны паёк...



### Настаўнік

(*гладзячы жывот*)

Бярэце вы прыклад з настаўніка ўсе:
Перш чым пайсьці мне ў школу,
Я сем бутэрбродаў з каваю зьеў,
Таму і вясёлы.

1 шы. А мне-бы хоць лустачку хлеба...
2-гі. І мне-бы...
3-ці І мне-бы...
4-ты. І мне-бы...

(ЗАСЛОНА)

## ДЗЕЯ 2-я

*У савецкай школе. Работы пакой. Дзеці пішуць плякаты, лёзунгі, робяць насьценгазэту. Адкрываецца заслона. Усе дзеці сьпяваюць на матыў „Никто пути пройденного“*

З работай мы знаёмыя,
І любім працаваць.
Жыцьцё мы будзем новае
Ўсе разам будаваць.

*Усе скора становяцца ў круг і пачынаюць кідаць адзін другому мяч. Каму трапіць у рукі мяч, той выгаварвае сваё імя*

1-шы. Вера.
2-гі. Соня.
3-ці. Маня.
4-ты. Коля.

### Усе разам

Вучымся ў савецкай школе.
5-ты. Кожнага спытаць паспрабуй.
4-ты. Мы—ударнікі вучобы.
6 ты. Усе вучні—акцябраты,
7-мы. Усе працуць у брыгадах.

1-шы. Коля.
2-гі. Маня
3-ці. Соня
4-ты. Вера.

### Усе разам

Скора будзем піанэры.
Скончым школу—

Ну, а потым
На палёх
І на заводах
Знойдзем
Мы сабе работу.
Працавацьмем усе чыста.
1-шы. Коля будзе трактарыстам.
3-ці. Ну, а Вера?
4-ты. Інжынэрам.
5-ты. У нас вясна і радасьць.
А за мяжой у школах
І ў рабочых хатах
Хваробы, холад, голад.

*Усе стачовяцца кругам, сьпяваюць на мотыў „Вихры враждебные" і выходзяць, як толькі канчаецца песьня.*

Нашы тава́рышы—
Дзеці сусьвету—
Разам з бацькамі
Ідуць за Саветы.
Ў гэтым змаганьні
За волю, уладу
Ім дапаможам
І мы, акцябраты.
Блізіцца час,
Калі ўсюды на сьвеце
Будуць шчасьлівымі,
Вольнымі дзеці.



# У КРАІНАХ РАБСТВА, ГОЛАДУ І ЖАБРАЦТВА

Ва ўсіх буржуазных краінах налічваецца звыш 40 мільёнаў беспрацоўных.

Тысячы рэвалюцыянэраў пакутуюць у турмах.

Беспрацоўныя і іх дзеці вымушаны жабраваць і паміраць з голаду.

Усё часьцей і часьцей адбываюцца такія выпадкі: бацькі прадаюць сваіх дзяцей у няволю, як тавар, бо ня маюць чым карміць іх.

Наш абавязак—дапамагаць галодным дзецям замежных краін, узмацняць сувязь з сваімі братамі, якія разам з бацькамі змагаюцца супроць буржуазіі, за пралетарскую рэвалюцыю.



**ХЛЕБА!** — просяць галодныя дзеці ў сваёй беспрацоўнай маці.

# СЬЦЕРАЖЫСЯ

**Летні час мы павінны выкарыстаць як мага лепш для аздараўленьня дзяцей. Фізкультурныя гульні могуць прынесьці шмат карысьці ў гэтай рабоце. З гэтай прычыны часопіс будзе друкаваць лепшыя летнія масавыя гульні ў кожным нумары. У наступным нумары мы друкуем дзьве гульні.**

**Сьпяшайцеся падпісацца на часопіс на ўсё лета!**

Гульня гэта лёгкая і цікавая. Група дзяцей ад 6 да 12 чалавек можа правесьці яе на школьным дварэ ці на фізкультурнай пляцоўцы.

Задача гульні — фізкультурнае практыкаваньне на спрытнасьць.

Што патрэбна для гульні?

Каля 12 дзеравяных калодачак ці бутэлек. Расстаўляюцца калодачкі ў круг (глядзі малюнак) ад 30 да 70 сантымэтраў адна ад другой.

## ЯК ГУЛЯЦЬ

1. Усе ўдзельнікі гульні становяцца ў шарэнгу адзін за другім, трымаючыся за бакі ці плечы свайго пярэдняга суседа.



2. Наперадзе становіцца вылучаны групаю павадыр, які кіруе гульнёю, а з боку—наглядчык. Пасьля кожнае гульні наглядчык зьменьваецца і сам прымае ўдзел у гульні.

3. Як толькі павадыр сьвісьне ў сьвісток — уся шарэнга саступае з месца і ідзе ў ногу. Павадыр

ідзе наперад, заходзіць то ўлева, то ўправа і атрымліваецца жывая зьмейка (гл. малюнак).

4. Калі шарэнга прыме форму зьмейкі, дык павадыр павялічвае хаду, падбягае блізка да калодачак і стараецца выкруціцца паміж імі, не прапускаючы ніводнай.

5. Удзельнікі стараюцца не адставаць. Трымаючыся адзін за аднаго, яны выкручваюцца паміж калодачак.

6. Той, што паваліць калодачку, пакідае гульню.

7. Канчаецца гульня тады, калі ўдзельнікаў застанецца менш за палавіну.

Тыя, што прайгралі, вітаюць сваіх пераможцаў словам „Няхай жыве фізкультура“.

Павадыр запісвае прозьвішчы прайграўшых і ў канцы гульні вызначае лепшых спрытнейшых фізкультурнікаў.

## ЗЬМЕСТ



Мастацкае афармленьне нумару—мастака Ізмайлава.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА.
А. ЯКІМОВІЧ.

**Паглядзеце ўважліва на гэты малюнак. Якія недарэчнасьці вы тут знойдзеце?**



ЦАНА № 18 КАП.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

на 2-тыднёвую ілюстраваную акцябрацкую часопісь

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ знаёмяць дзяцей у даступнай ім форме з нашым сацыялістычным будаўніцтвам і жыцьцём працоўных і іх дзяцей у буржуазных краінах. Часопісь арганізуе дзяцей на пасільны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве.

„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ даюць у кожным нумары апавяданьні, нарысы, вершы, песьні, гульні п‘еські, галаваломкі і іншыя матар‘ялы.

Часопісь друкуе для сваіх падпісчыкаў дармовыя дадаткі.

Усе дзеці павінны чытаць сваю часопісь

## ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

Сьпяшайцеся падпісацца на часопісь на ўсё лета!

## УМОВЫ ПАДПІСКІ

На 3 месяцы . . . 90 кап.
„ 6 „ . . . 1 р. 80 „
„ 1 год . . . . . 3 р. 60 „

Падпіску здавайце на пошту і лістаносцам

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1233. 5470 экз. Уп. Галоўлітбелу А—5